Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА



9 мая 1991 г. ЧАЦВЕР

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

№ 90 (21618)

Цана 10 кап.

## ПЕРАМОГІ ДЗЕНЬ СВЯТЫ

## Вайна далёкая і блізкая

Апошнім часам палітычная кан'юнктура наклала адбітак амаль на ўвесь каляндар афіцыяльных свят. Мала хто ўспамінае пра Дзень Канстытуцыі, значна менш пампезнасці, грандыёзных шэсцяў і пераможных рапартаў у дні Кастрычніцкіх свят і Першамая. То з аднаго, то з другога боку чуюцца галасы, каб увогуле адмяніць гэтыя ўрачыстасці, бо, маўляў, не на тыя арыенціры ўказваюць яны, не тых куміраў узвялічваюць...

Пра Дзень Перамогі ні ад «левых», ні ад «правых» зневажальных слоў не чуваць. Ды нават каб і захацелася некаму — немагчыма запляміць гэта свята ў свядомасці людзей, як немагчыма выкрасліць з гісторыі чатыры гады пакут, выпрабаванняў, трагедый... Паласа крыві і слёз, што праляглa праз лёс народа, і сёння будзіць сумленне і памяць, не дае заспакойвацца, прымушае з трывогай і надзеяй углядацца ў няпэўнае заўтра.

Штогод 9 мая мы прыходзім да помнікаў, мемарыялаў, магіл герояў і ахвяр гэтай найстрашнейшай з войнаў. Як шануем памяць загінуўшых? Ці ўсё зроблена, каб не згасаў у душах людскіх агонь удзячнасці? На жаль, няпэўны час усеагульнай дэзарганізаванасці і тут унёс свае карэктывы. Перасталі быць сенсацыяй паведамленні аб выпадках, калі разбураюцца магілы, зневажаюцца помнікі, забытыя ўсімі, прыходзяць у заняпад мемарыялы.

Але, на шчасце, ёсць людзі, для якіх памяць аб мінулай вайне — не толькі лозунг і святочная цырымонія. Не так даўно быў я ў Старадарожскім раёне, у далёкай ад гарадскога тлуму вёсцы з прыгожай назвай Сінягова. Першае, што мне паказалі ў ёй, — рэканструяваны помнік воінам 121-й стралковай дывізіі. Якія ў жніўні 1941-га, акружаныя ворагам, гінулі ў навакольных лясах і балотах, прабіваючыся да сваіх.

70 тысяч рублёў выдаткаваў мясцовы калгас «Камуніст» на рэканструкцыю. І гэта ў цяперашнія перадрыначныя часы, калі ў іншага старшыні калгаса снегу зімой не дапросішся.

А яшчэ недалёка ад Сінягова ёсць мемарыял воінам гэтай жа дывізіі на месцы, дзе салдаты прарывалі варожае кальцо. Штогод тут праводзіцца рэспубліканскі лёгкаатлетычны прабег «Ад помніка да помніка». Грошы на ўсё гэта ідуць у асноўным зноў жа з калгаснай касы.

Нешматслоўным быў старшыня калгаса М. Бода, калі я пацікавіўся, ці не дарагая гэта справа для бюджэту гаспадаркі.

— Нам гэта патрэбна, — адказаў Міхаіл Тарасавіч.

Пакуль ёсць людзі, для якіх гэта неабыякава, пакуль прыходзім мы да магіл і абеліскаў і не па нечаму загаду — па абавязку сумлення заміраем ля іх у хвіліне маўчання, — датуль і самі маем права на памяць і ўдзячнасць нашчадкаў.

Валянцін ЖДАНКО.



Мужна змагаўся з ворагам у гады Вялікай Айчыннай вайны кавалер шматлікіх баявых ордэнаў і медалёў генерал-маёр у адстаўцы Васіль Ільіч СІНЧЫЛІН. З вялікай цікавасцю слухаюць гэтага чалавека ў школьных класах, у студэнцкіх аўдыторыях, у воінскіх часцях. Васіль Ільіч з'яўляецца старшынёй Мінскай секцыі Савецкага камітэта ветэранаў вайны, народным дэпутатам БССР. Са святам Вас, Васіль Ільіч!

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

## У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР

Пад старшынствам М. І. Дземянцея адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

Разгледжаны ход падрыхтоўкі да чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі дванаццатага склікання. Члены Прэзідыума абмяркавалі інфармацыю па гэтаму пытанню, з якой выступіў намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР В. І. Шаладонаў.

Адзначалася, што ў стадыі завяршэння знаходзіцца работа над законапраектамі «Аб прадпрымальніцтве ў Беларускай ССР», «Аб занятасці насельніцтва Беларускай ССР», «Аб прыярытэтным сацыяльна-эканамічным развіцці вёскі і аграпрамысловага комплексу», «Аб парадку адклікання народных дэпутатаў у Беларускай ССР», «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Беларускай ССР», «Аб культуры ў Беларускай ССР».

Асаблівая заклапочанасць выказана ўдзельнікамі пасяджэння аб неабходнасці глыбокай прапрацоўкі пытанняў, якія намечана абмяркаваць на сесіі самымі першымі. Гэта — праграма ўрада БССР па стабілізацыі эканомікі рэспублікі, надзвычайныя меры па выкананню бюджэту Беларускай ССР на другое паўгоддзе 1991 года, асновы раздзяржаўлення і прыватызацыі, іншыя праблемы, пастаўленыя ў парадак дня самім жыццём. На сесіі будуць уважліва разгледжаны ўсе патрабаванні ўдзельнікаў красавіцкіх мітынгаў і забастовак у рэспубліцы.

Для таго каб на абмеркаванне дэпутатаў прадставіць добра прадуманыя, шматварыянтна пралічаныя дакументы, над імі сёння працуюць не толькі пастаянныя камісіі беларускага парламента, галіновыя аддзелы Сакратарыята Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР, але і адпаведныя міністэрствы і ведамствы, вучоныя і эканамісты, юрысты. Народныя дэпутаты, якія займаюцца падрыхтоўкай законапраектаў, зараз сустракаюцца з выбаршчыкамі, раяцца з імі па самых гарачых пытаннях, рашэнні па якіх хутка трэба будзе прымаць. У законапраектах, як адзначалася на пасяджэнні Прэзідыума, неабходна паўней выкарыстоўваць думку людзей як аб эканамічных, так і палітычных з'явах нашага жыцця.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прыпыніў на тэрыторыі рэспублікі дзеянне тых артыкулаў Указа Прэзідэнта СССР ад 12 красавіка 1991 года «Аб надзвычайных мерах па забеспячэнню матэрыяльнымі рэсурсамі прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый», якія не адпавядаюць Закону Беларускай ССР «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Беларускай ССР», абмяжоўваюць суверэнныя правы рэспублікі, і звярнуўся да Прэзідэнта СССР з прапановай перагледзець гэтыя артыкулы.

На пасяджэнні разгледжаны пытанні адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўпарадкавання. Прыняты Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР — аб аднясенні гарадскога пасёлка Крупкі Крупскага раёна да катэгорыі гарадоў раённага падпарадкавання, а таксама аб уключэнні ў гарадскую рысу Пінска — вёскі Крайновічы Малатковіцкага сельсавета, Барысава — вёскі Юшкевічы Глівінскага сельсавета, Мінска — часткі вёскі Дварэцкая Слабада Шчомыслiцкага сельсавета.

Разгледжаны іншыя пытанні жыцця рэспублікі.

Прэс-служба Вярхоўнага Савета БССР

## Знаходжанне ў Беларускай ССР

4—5 мая ў Беларусі знаходзіўся выконваючы абавязкі старшыні ЦКК КПСС Я. М. Махаў.

У ходзе шматлікіх сустрэч з партыйным актывам Беларусі, працаўнікамі мінскага завода «Халадзільнік» Я. М. Махаў расказаў аб выніках аб'яднанага Пленума ЦК і ЦКК КПСС, аб прынятых ім рашэннях.

Ён таксама прыняў удзел і выступіў на праведзеным семінары-нарадзе старшынь кантрольных камісій абласных партарганізацый Кампартыі Беларусі і сталіцы рэспублікі, у рабоце аб'яднанага пленума партыйнага камітэта і кантрольнай камісіі арганізацыі КПСС Беларускай ваеннай акругі.

Адбыўся крытычны абмен вопытам работы кантрольных органаў партыі, аб іх месцы і ролі ў рэалізацыі рашэнняў XXVIII з'езда КПСС, умацаванні дысцыпліны і адзінства партыйных радоў.

Я. М. Махаў наведаў таксама шпіталь інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны, дзе цёпла павіншаваў ветэранаў з Днём Перамогі.

## Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР

### Аб разглядзе на чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР запытаў, прапаноў і патрабаванняў працоўных і ўдзельнікаў мітынгаў і забастовак у рэспубліцы

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР пастанаўляе:

Даручыць пастаянным камісіям Вярхоўнага Савета Беларускай ССР падрыхтаваць і ўнесці свае прапановы аб разглядзе на чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР запытаў, прапаноў і патрабаванняў працоўных і ўдзельнікаў мітынгаў і забастовак у рэспубліцы:

па эканамічных пытаннях — старшыні камісій: тт. Козік Л. П., Кулічкоў А. М., Унучка Р. І., Леўчык У. К., Сасноў А. В., Булахаў Д. П., Гаркун У. Г.;

аб увядзенні прыватнай уласнасці на зямлю — старшыні камісій: тт. Гаркун У. Г., Леўчык У. К., Булахаў Д. П.;

па пытанню аб дэпартызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый — старшыні камісій: тт. Булахаў Д. П., Кулічкоў А. М., Капытоў М. Я.;

аб дэпалітызацыі праваахоўных органаў — старшыні камісій: тт. Грыб М. І., Булахаў Д. П., Леўчык У. К.;

аб уласнасці КПСС—КПБ — старшыні камісій: тт. Каратчэня І. М., Козік Л. П., Булахаў Д. П.;

аб праходжанні асобамі, прызванымі ва Узброеныя Сілы СССР, воінскай службы на тэрыторыі Беларускай ССР — старшыні камісій: тт. Грыб М. І., Булахаў Д. П., Курдзюкоў В. М.

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.

8 мая 1991 года.
г. Мінск.

## У Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР

7 мая адбылося пасяджэнне Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР.

Разгледжаны вынікі выбараў народнага дэпутата Беларускай ССР, якія праходзілі 28 красавіка ў Столінскай выбарчай акрузе № 139 Брэсцкай вобласці замест выбыўшага дэпутата. Па выніках галасавання Цэнтральная камісія зарэгістравала народным дэпутатам Беларускай ССР ад Столінскай выбарчай акругі № 139 Брэсцкай вобласці Чэха Георгія Данілавіча, намесніка старшыні выканаўчага камітэта Столінскага раённага Савета народных дэпутатаў.

Цэнтральная камісія па выбарах народных дэпутатаў БССР падвяла вынікі рэгістрацыі акруговымі выбарчымі камісіямі кандыдатаў у народныя дэпутаты Беларускай ССР па 13 выбарчых акругах, у якіх 2 чэрвеня будуць праводзіцца паўторныя выбары.

Усяго зарэгістраваны 23 кандыдаты ў народныя дэпутаты БССР. У дзвюх выбарчых акругах будуць балаціравацца па 3 кандыдаты, у 6 акругах— па 2 кандыдаты, у 5 акругах— па 1 кандыдату.

На пасяджэнні камісіі разгледжаны таксама паступіўшыя заявы.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

МІНСК

### СЛАЎНЫ ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

У сорак шосты раз адзначае наш народ свята Перамогі. Доўгіх 1.418 дзён і начэй ішлі дарогамі найцяжэйшай у гісторыі чалавецтва вайны да майскага дня 1945 года франтавікі і партызаны. Кавалі для іх зброю працаўнікі тылу. І вось цяпер, як на сустрэчу з баявой маладосцю, прыйшлі 8 мая ў акруговы Дом афіцэраў на ўрачысты сход, прысвечаны светламу і бясконца дарагому для іх святу.

З сардэчнымі словамі прывітання да ветэранаў, маладых воінаў, да ўсіх, хто прысутнічаў на ўрачыстасці, звярнуўся намеснік камандуючага войскамі БВА генерал-лейтэнант В. Якушаў. Для цяперашняга і ўсіх наступных пакаленняў нязгасны подзвіг герояў, якія перамаглі гітлераўскіх захопнікаў, вечна будзе служыць прыкладам беззапаветнай вернасці Айчыне, падкрэсліў ён. Народ Беларусі, воіны, якім выпаў гонар служыць на гэтай свяшчэннай зямлі, ніколі не забудуць дзядоў і бацькоў, якія аддалі жыццё за Перамогу.

З усенародным святам удзельнікаў урачыстага сходу павіншавалі Герой Савецкага Саюза А. І. Барданаў, наладчык Мінскага электрамеханічнага завода ветэран Вялікай Айчыннай вайны Д. І. Кузняцоў, былы франтавы кінаапаратар, народны артыст БССР І. Н. Вейняровіч.

У прэзідыум сходу былі запрошаны дзяржаўныя і партыйныя кіраўнікі, ветэраны, военачальнікі, прадстаўнікі грамадскасці.

(БЕЛТА).

### ХОЦЬ ІМЁНЫ ПАКУЛЬ НЕВЯДОМЫЯ

**БАБРУЙСК. (В. Зіноўскі). Напярэдадні Дня Перамогі ў Бабруйску адбылася цырымонія перапахавання астанкаў невядомых воінаў, якія загінулі ў баях за горад у 1941-44 гадах, — лётчыка і пехацінца. Яны былі выяўлены ў ходзе пошукавай работы з дапамогай мясцовых жыхароў чырвонымі следапытамі 22-й школы ў пасёлках Зялёнка і Назараўка.**

Трэба адзначыць, што на рахунку гэтага пошукавага атрада, якім кіруе настаўнік гісторыі М. Бароўскі, ужо нямала добрых спраў. Так, у мінулым годзе было зроблена перапахаванне трох невядомых салдат, а да гэтага ўстаноўлены імёны яшчэ трох загінуўшых воінаў, якія доўгі час лічыліся прапаўшымі без вестак.

### ЛЕПШ ДАМАЎЛЯЦЦА, ЧЫМ БАСТАВАЦЬ

**МАГІЛЁЎ. (А. Санчук). Тут адбылася сустрэча членаў прэзідыума гарадскога Савета народных дэпутатаў з гарадскім забасткомам. На ёй дэталёва абмяркоўваліся патрабаванні магіляўчан да Савета Міністраў БССР і Вярхоўнага Савета рэспублікі.**

Не толькі эканоміка і палітыка хвалююць працоўныя калектывы горада на Дняпры. Шэраг патрабаванняў звязаны з напружанай экалагічнай абстаноўкай у абласным цэнтры. У прыватнасці, па гэтай прычыне забастком дабіваецца, каб Магілёву быў нададзены статус зоны свабоднага эканамічнага прадпрымальніцтва, спынены выплаты ў саюзны бюджэт з прыбыткаў прадпрыемстваў. Варта заўважыць, што хваля красавіцкіх забастовак практычна абмінула дастаткова палітызаваны Магілёў. Іх, калі не лічыць частковы прастой завода «Магілёўліфтмаш» 23 красавіка, у горадзе не было. Не заклікаў спыняць работу і забастком, абмежаваўшыся правядзеннем мітынгаў. Ён наладзіў кантакты з дэпутатамі розных узроўняў, прадстаўнікамі мясцовай улады і кіраўнікамі прадпрыемстваў. Сустрэча забасткома з прэзідыумам гарсавета таксама завяршылася дамоўленасцю аб супрацоўніцтве

### ФОРТ ВЭЙН ПРАПАНУЕ

**ГОМЕЛЬ. Дэлегацыя амерыканскага горада Форт Вэйн, якая пабывала тут, прапанавала гарадскому Савету заключыць дагавор на пабрацімства.**

Як мяркуюць заакіянскія госці, гэта дапаможа плённа развіваць супрацоўніцтва ў розных галінах гаспадаркі на ўзаемавыгаднай аснове. Прапанова амерыканцаў вывучаецца.

## Загад міністра абароны СССР

*9 МАЯ 1991 г.* **№ 210** *г. МАСКВА*

Воіны Савецкіх Узброеных сіл, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, працоўныя Савецкага Саюза!

9 мая спаўняецца 46 гадоў з дня перамогі савецкага народа і яго Узброеных Сіл у Вялікай Айчыннай вайне. У ходзе найжорсткай бітвы былі абаронены свабода і незалежнасць нашай многанацыянальнай Айчыны, ачышчана ад захопнікаў родная зямля, нанесена знішчальнае паражэнне фашысцкай Германіі і яе сатэлітам, вызвалены ад фашысцкага прыгнёту народы Еўропы.

Усенародная па свайму характару, Вялікая Айчынная вайна пераканаўча пацвердзіла непераможную жыццёвую сілу дружбы і брацтва народаў СССР, іх эканамічнага, палітычнага і ваеннага саюза. На палях бітваў прымножылі славу сваіх баявых сцягоў нашы Узброеныя Сілы. Савецкія воіны праявілі бяспрыкладны масавы гераізм, высокае ратнае майстэрства, адданасць ваеннай прысязе, воінскаму абавязку, свайму народу. Пляччо ў пляччо з імі грамілі ворага народныя апалчэнцы, падпольшчыкі і партызаны. Савецкія людзі па праву ганарацца рашаючай роллю СССР у разгроме фашызму, памятаюць і ўшаноўваюць заслугі ўсіх удзельнікаў другой сусветнай вайны ў барацьбе супраць агульнага ворага.

Наша перамога адкрыла перад чалавецтвам перспектывы ўсталявання на зямлі трывалага міру. У апошнія гады гэтыя перспектывы матэрыялізуюцца ў аздараўленні міжнароднага палітычнага клімату, практычных дасягненнях перагаворнага раззбраенчага працэсу. Разам з тым рэальнасць нашых дзён такая, што пазітыўныя перамены пакуль не сталі незваротнымі, ваенная небяспека захоўваецца. Памяць аб Вялікай Айчыннай вайне патрабуе ад савецкіх людзей высокай пільнасці, няспынных клопатаў аб абараназдольнасці краіны.

Рэальным фактарам прадухілення вайны, апорай бяспекі і суверэнітэту ўсіх народаў нашай Радзімы — Саюза ССР выступаюць Узброеныя Сілы, якія маюць сучаснае тэхнічнае аснашчэнне і высокую прафесіянальную падрыхтоўку, апіраюцца на падтрымку народа. Савецкія воіны непахісна верныя канстытуцыйнаму абавязку, гераічным традыцыям старэйшых пакаленняў. Яны актыўна ўдзельнічаюць у абнаўленні савецкага грамадства, настойліва вырашаюць складаныя задачы ваеннай рэформы, удасканальваюць сваю вывучку, падтрымліваюць баявую гатоўнасць арміі і флоту на дастатковым і надзейным узроўні.

Вітаю і віншую асабовы састаў арміі і флоту, ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл, усіх савецкіх людзей са святам вялікай перамогі!

У азнаменаванне 46-й гадавіны перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг. **загадваю:**

9 мая 1991 года ў 22 гадзіны па мясцоваму часу зрабіць святочны артылерыйскі салют у сталіцы нашай Радзімы горадзе-героі Маскве, сталіцах саюзных рэспублік, у гарадах-героях Ленінградзе, Валгаградзе, Адэсе, Севастопалі, Навара сійску, Керчы, Туле, Смаленску, Мурманску, у крэпасці-героі Брэсце, а таксама ў гарадах Калінінградзе, Львове, Растове-на-Доне, Самары, Навасібірску, Чыце, Хабараўску, Уладзівастоку і Севераморску трыццаццю артылерыйскімі залпамі.

Вечная слава героям, якія загінулі ў баях за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы!

Няхай жыве гераічны савецкі народ і яго доблесныя Узброеныя Сілы!

Міністр абароны СССР
Маршал Савецкага Саюза
Д. ЯЗАЎ

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

# ПАРТОРГІ

Дзіуныя людзі жывуць сярод нас: працуюць, выхоўваюць дзяцей і ўнукаў, не выхваляючыся ні перад кім сваімі заслугамі. А мы — іх супрацоўнікі, суседзі па пад'езду, нават па лесвічнай пляцоўцы — і не здагадваемся, якое складанае і багатае жыццё пражылі гэтыя людзі. Вось пра адну такую сям'ю я і хацеў бы расказаць.

У Оршы на чыгуначным вузле многія дзесяцігоддзі працавалі сціплая Фаіна Абасаўна Цімкаева і яе муж, не менш сціплы, нават непрыкметны, але выдатны майстар сваёй справы — Васіль Цімафеевіч Завадскі. Пасяліліся яны ў Оршы ў канцы 1945-га пасля дэмабілізацыі з арміі.

Фаіна Абасаўна з сям'і рабочых, татар па нацыянальнасці. У бацькоў было пяцёра дзяцей, з якіх старэйшая — Фаіна.

У 1939 годзе раптоўна памёр бацька, і Фаіна, паспеўшы скончыць восем класаў, вымушана была ісці працаваць, каб дапамагчы маці пракарміць і выгадаваць малодшых. Яе прынялі на фабрыку «Дзяржзнак» вучаніцай. У 1940 годзе, паглядзеўшы кінафільм «Сандружынніцы», усе дзяўчаты-камсамолкі цэха вырашылі ісці вучыцца на сандружынніц, і іх у пачатку 1941 года залічылі на курсы. Але скончыць курсы дзяўчаты не паспелі — пачалася вайна.

Уся сандружына аднесла заявы ў ваенкамат з просьбай прызваць у армію. Праз некалькі дзён Цімкаеву з дзвюма сяброўкамі накіравалі санінструктарамі ў ствараемую 17-ю пяхотную апалчэнскую дывізію.

Цяжка было дзяўчатам. Але Фаіне здавалася, што яна, маладая і здаровая, яшчэ нічога не зрабіла для перамогі над ворагам і наогул адседжваецца ў тыле, у той час калі яе месца на перадавой. Яна пісала адну за адной заявы-рапарты камандаванню аб адпраўцы на фронт, даказвала, што яна патрэбна там, на перадавой. Яе запрашалі да начальніка шпіталя ці яго зампаліта, растлумачвалі, што тут, у прыфрантавым шпіталі, той жа фронт.

Аднойчы, у час нямецкага контрнаступлення, нашы войскі вымушаны былі адступаць. Давялося тэрмінова эвакуіравацць і шпіталь. Фаіна дапамагла ўсіх размясціць па машынах, пагрузіць маёмасць. Адправіўшы апошнюю машыну, сама... засталася. А тут і пяхота наша з'явілася, заняла абарону.

Пачаўся бой, Фаіна, перабягаючы ад аднаго байца да другога, аказвала дапамогу параненым. Байцы і камандзіры радаваліся, што ёсць каму перавязваць іх раны. Яна, худзенькая, маленькага росту, вынесла з поля бою больш за дваццаць раненых!

Пасля бою камандзір батальёна падышоў да санінструктара і падзякаваў за дапамогу, а потым спытаў:

— Адкуль з'явілася ў нас, таварыш санінструктар?

І Фаіна ўсё расказала капітану.

— Добра, заставайся ў батальёне, а я пагавару з камандзірам палка.

Але на гэты раз Фаіне Цімкаевай не пашанцавала: па распараджэнню начальніка асобага аддзела дывізіі яе вярнулі ў шпіталь. Моцна перажывала дзяўчына няўдачу і ўсё ж дабілася свайго: 2 жніўня 1944 года яе накіравалі санінструктарам у 873-ці армейскі Смаленскі знішчальна-процітанкавы артылерыйскі полк.

Фаіна Цімкаева трапіла ў 1-ю батарэю. Неўзабаве камуністы батарэі выбралі яе сваім парторгам. Фаіна Абасаўна памятае свой першы бой у артпалку. Гэта было ўжо на літоўскай зямлі, каля населенага пункта Валкавішкіс.

Гітлераўцы, сабраўшы магутны танкавы кулак, 9 жніўня 1944 года пайшлі ў контрнаступленне.

Некалькі гадзін артылерысты перакрывалі шлях фашысцкім танкам да акопаў нашай пяхоты. Фаіна з санітарнай сумкай праз плячо была тут жа, на 1-й батарэі.

У тым баі вызначыўся і камандзір гарматы 2-й батарэі, ён жа парторг батарэі, старшы сяржант Васіль Цімафеевіч Завадскі. Да ордэна Чырвонага Сцяга прыбавіўся ордэн Айчыннай вайны І ступені.

Аднойчы, на адной з нарад у штабе палка, на якую намеснік камандзіра палка па палітчасці маёр М. Сіянка выклікаў усіх парторгаў батарэй (а іх у палку было шэсць), Васіль Завадскі ўбачыў незнаёмую дзяўчыну, хоць ваяваў у палку з 1941 года.

З нарады ішлі разам. Парторгі гаварылі паміж сабой пра ўсё: і пра свае партыйныя справы, і пра агульначалавечыя праблемы. Фаіна цёпла думала пра яго, гэтага смелага артылерыста, які, як і яна, ішоў па вайне ад самай Масквы, не раз глядзеў смерці ў вочы, быў паранены. Яна пачула пра самае цяжкае з яго франтавога жыцця — бой каля вёскі Роткаўшчына ў Смалявіцкім раёне каля Мінска, калі іх полк стрымліваў націск шматтысячнай групоўкі гітлераўцаў, якія спрабавалі вырвацца з «мінскага катла».

Яны спадабаліся адзін аднаму. А неўзабаве дамовіліся: калі застануцца жывыя і лёс іх не разлучыць, дык у першы ж мірны дзень стануць мужам і жонкай.

У 873-м армейскім Смаленска-Брандэнбургскім Чырванасцяжным ордэна Суворава III ступені знішчальна-процітанкавым артылерыйскім палку Дзень Перамогі — 9 мая 1945 года — адзначылі асабліва. Гэта было першае ў мірны час вяселле двух парторгаў батарэй Фаіны Цімкаевай і Васіля Завадскага. Вяселле рыхтавалі ўсім палком. На вялікім лузе непадалёк ад Берліна наладзілі ўрачыстасць. Упершыню за чатыры гады вайны 22-гадовая Фаіна надзела звычайныя чаравікі, якія ёй падарылі воіны палка, і сукенку. Усе жадалі маладым шчасця і доўгага мірнага сямейнага жыцця.

Фаіна Абасаўна і Васіль Цімафеевіч выканалі наказ сваіх аднапалчан, дадзены ім у дзень вяселля, — яны выхавалі сына і дзвюх дачок, далі ім вышэйшую адукацыю.

Шчасця вам, дарагія Фаіна Абасаўна і Васіль Цімафеевіч!

**М. АКАЛОВІЧ,**
**член прэс-групы пры Беларускім рэспубліканскім савеце ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл СССР.**

# Навечна ў памяці народнай

Мемарыяльная дошка з іменем Героя Савецкага Саюза Паўла Рака адкрыта ў пярэдадзень Дня Перамогі ў Барысаве.

Камандзір узвода сярэдніх танкаў лейтэнант Павел Рак на сваім Т-34 з экіпажам, у які ўваходзілі А. Данілаў і А. Пятраеў, 30 чэрвеня 1944 года першым прарваўся ў заняты немцамі Барысаў па мосце, які тут жа быў узарваны. Застаўшыся адзін на адзін з варожым гарнізонам, савецкія танкісты 17 гадзін вялі няроўны бой з фашыстамі. Яны разграмілі камендатуру, падбілі два танкі, вызвалілі з канцлагера больш як 200 ваеннапалонных. І толькі калі ў баках закончылася гаручае, геройскі танк загарэўся.

Барысаўчане свята ўшаноўваюць памяць аб сваіх вызваліцелях. Імёны Паўла Рака і яго баявых саратнікаў навечна занесены ў спісы ардэнаноснай танкавай часці. А на ўездзе ў Барысаў на высокім пастаменце застыў іх геройскі Т-34.

**Л. ТРАЦЭЎСКІ,**
**кар. БЕЛТА.**

# І ўсё ж вяршэнства закона

**У сакавіку 1990 г. Вярхоўны Савет СССР стварыў Камітэт па пытаннях правапарадку і барацьбы са злачыннасцю, а ў пачатку гэтага года быў створаны Камітэт па каардынацыі дзейнасці праваахоўных органаў пры Прэзідэнце СССР. Чым выклікана неабходнасць з'яўлення новай структуры? На гэта і іншыя пытанні адказвае народны дэпутат СССР Юрый Голік, які часова з'яўляецца старшынёй абодвух камітэтаў.**

— Прапановы стварыць такі камітэт неаднаразова выказвалі мае калегі, пачынаючы з другога З'езда народных дэпутатаў СССР. І вось ён створаны. Пакуль што ў яго саставе толькі старшыня, якому даручана ў кароткі час сфармуляваць мэты і задачы камітэта. Думаецца, на першым этапе гэта будзе каардынацыя намаганняў МУС, пракуратуры, Мінюста і КДБ у барацьбе са злачыннасцю. Адно з патрабаванняў да нашага камітэта — мабільнасць пры нешматлікім саставе. Мяркую, што ў нас будуць працаваць дваццаць — дваццаць пяць чалавек.

**— Але з мінулага года вы ўзначальваеце Камітэт Вярхоўнага Савета СССР па пытаннях правапарадку і барацьбы са злачыннасцю. Ці будзеце сумяшчаць кіраўніцтва абодвума камітэтамі?**

— Крыху пазней выбар зраблю на карысць новага камітэта. Лічу, што Камітэт па пытаннях правапарадку і барацьбы са злачыннасцю цяпер запрацаваў на поўную сілу. Новая ж арганізацыя толькі зараджаецца, таму патрабуецца і ад мяне асабіста канцэнтрацыя ўвагі на пытаннях яго станаўлення. Складанасць у тым, што ў нас цалкам адсутнічае вопыт работы такой структуры па каардынацыі дзейнасці праваахоўных органаў. Аналагаў падобнай арганізацыі няма і ў практыцы іншых дзяржаў.

Аднак неабходнасць стварэння камітэта прадыктавана самім жыццём. Бо менавіта ў 1987—1989 гадах у нас у краіне, па сутнасці, адбыўся якасны скачок у развіцці злачыннасці. У першую чаргу рост яе арганізаванасці і прафесіяналізму. Гэта вельмі небяспечныя тэндэнцыі, на якія нельга заплюшчваць вочы. На жаль, з пачатку 60-х гадоў у падручніках па крымінальнаму праву і крыміналогіі пісалі: «Арганізаваная і прафесіянальная злачыннасць у СССР выкаранена». На самай справе ў той час яна толькі прыціхла, спрабуючы прыстасавацца да зменлівых абставін.

## Вы прасілі расказаць

Тым, хто змагаецца з мафіяй, сёння яўна не хапае вопыту. Лічыў і лічу: цалкам пакончыць са злачыннасцю пакуль што немагчыма, але паставіць яе ў жорсткія рамкі сацыяльнага кантролю трэба і можна. І зрабіць гэта павінны спецыялісты, прафесіяналы.

**— Якія пытанні звязаны з дзейнасцю Камітэта па пытаннях правапарадку і барацьбы са злачыннасцю?**

— Гэта значыць якія функцыі камітэта? Перш за ўсё—заканадаўчае забеспячэнне праваахоўнай дзейнасці. Гэта азначае, што ён павінен распрацоўваць законы, якія лягуць у аснову дзейнасці адпаведных праваахоўных органаў. Першы з такіх законаў — аб савецкай міліцыі—нядаўна быў прыняты Вярхоўным Саветам СССР. У першым чытанні прайшоў закон аб органах дзяржаўнай бяспекі. Наперадзе вялікія змяненні ў законах аб Пракуратуры і Вярхоўным судзе СССР.

Другі напрамак нашай дзейнасці—выпрацоўка адзінай праваахоўнай палітыкі. І, зразумела, мы ажыццяўляем кантроль за дзейнасцю праваахоўных органаў.

Нарэшце, ёсць і такі напрамак дзейнасці камітэта, да якога мы паступова падыходзім, але, шчыра кажучы, пакуль яшчэ не можам ажыццявіць, паколькі на гэта не хапае сіл. Гэта крыміналагічная экспертыза ўсіх законапраектаў. Яна ахопіць такія сферы дзейнасці парламента, як бюджэтная, заканадаўчая і кантрольная. Такая экспертыза ў нас, на жаль, ніколі не праводзілася. Што маецца на ўвазе? Напрыклад, прымаецца які-небудзь закон, скажам, пра землекарыстанне ці раздзяржаўленне. Як ён адаб'ецца на росце ці скарачэнні злачыннасці, ці не нясе яго прыняцце і крыміагенны патэнцыял? А калі нясе, дык ці можна процідзейнічаць працэсу росту злачыннасці? Стары пастулат сцвярджае: лягчэй злачынства папярэдзіць. Вось мы і імкнёмся яго матэрыялізаваць у крыміналагічнай экспертызе законаў.

У саставе камітэта тры падкамітэты. Адзін з іх займаецца распрацоўкай заканадаўчых актаў аб дзейнасці міліцыі, пракуратуры, суда, асноў крымінальна-выканаўчага заканадаўства, усёй дзейнасці праваахоўных органаў. Гэты ж камітэт займаецца ў большай меры, чым іншыя, пытаннямі, кантролю дзейнасці праваахоўных органаў.

(ІАН).

# Разведчыкі

**У гады вайны аб дзейнасці партызанскіх разведчыкаў па зразумелых прычынах не прынята было шмат гаварыць. Пра іх дзеянні ведалі нямногія.**

У разведку тады бралі толькі добраахвотнікаў: смелых, фізічна моцных, кемлівых і ініцыятыўных.

Разведчыкі нашага атрада дзейнічалі ў асноўным у Стаўбцоўскім, былым Мірскім і Карэліцкім раёнах. Найбольш адказным і цяжкім лічыўся Стаўбцоўскі напрамак, бо там быў самы буйны фашысцкі гарнізон і вялікая чыгуначная станцыя, праз якую днём і ноччу ішлі варожыя эшалоны.

Наглядалі мы і за нашымі блізкімі «суседзямі»: гарнізонамі ў Міры і Турцы. Камісар Кастусь Балабановіч і начальнік штаба Уладзімір Калеснік з Другога Камсамольскага атрада завербавалі для работы на партызан сакратара мірскай паліцыі. Выконваючы заданне атрада, ён паставіў міну, ад якой узляцела ў паветра гарнізонная сталоўка. Пасля ён прымаў удзел у стварэнні шырокай агентурнай сеткі ў Міры. У ёй працавалі Нона Карповіч, браты Юрый і Яўген Федаркевічы, Іван і Марыя Хіневічы, Фама Кот, Іван Бубноўскі, сям'я Бычко з вёскі Любна і многія іншыя. Разведчыкі выконвалі самыя розныя заданні.

Камандзіра брыгады «Камсамолец» Міхаіла Навіцкага выклікалі ў штаб і паведамілі, што па рацыі з Масквы перадалі, каб партызаны здабылі новы сакрэтны процівагаз, які паступае на ўзбраенне варожых войск. Даручэнне было складанае, бо такія процівагазы выдавалі толькі ў дзеючай арміі.

Выканаць загад даручылі стаўбцоўскім разведчыкам мужу і жонцы Пегам. Вікторыя Пега, надзвычай прыгожая жанчына, наўмысна звярнула на сябе ўвагу фашысцкіх афіцэраў. У аднаго з іх і «здабыла» процівагаз. Фашысты забілі трывогу. Амаль на суткі затрымалі рух на станцыі, правяралі ўсіх, хто выходзіў ці выязджаў са Стоўбцаў. Але дарэмна. Процівагаз так і не знайшлі.

...Дзейнасць разведкі міжрайпартцэнтра нярэдка выходзіла далёка за межы нашай зоны.

Успамінаецца такі эпізод. У Баранавічах былі два гітлераўскія аэрадромы. Але які з іх сапраўдны, а які фіктыўны— наша камандаванне не ведала. Даручылі высветліць гэта разведчыкам Юрыю Федаркевічу і Івану Хіневічу. Яны пабывалі ў горадзе і прывезлі дакладную схему сапраўднага аэрадрома, указалі арыенціры. Схему накіравалі на Вялікую зямлю. Неўзабаве савецкая авіяцыя разбамбіла баранавіцкі аэрадром.

У пачатку ліпеня 1943 года фашысты пачалі рыхтавацца да блакады і знішчэння нашай партызанскай зоны. Каб выявіць стаянкі атрадаў, падарваць іх баяздольнасць, яны засылалі да нас сваіх агентаў.

Аднойчы ў лагер прыйшла жанчына і расказала, што падаслалі яе сюды гітлераўцы з заданнем атручваць камандзіраў. У мінскім гета знаходзіліся яе бацька і брат. Гестапа паабяцала іх выпусціць пасля выканання задання.

— Але, — сказала жанчына, — не магу здрадзіць Радзіме.

Жанчына перадала нам мыш'як і фатаграфіі фашысцкіх шпіёнаў, якіх рыхтавалі для засылкі ў партызанскую зону.

У самым пачатку блакады каля лагера Асобнага казацкага атрада затрымалі высокага, прыгожага брунета. Ён быў элегантна апрануты і меў пры сабе вялікі партфель. Сказаў, што ехаў у камандзіроўку ў Баранавічы, сышоў з поезда і хоча ваяваць у партызанах. Яму паказалі фатаграфію, на якой ён быў сярод сваіх сяброў-дыверсантаў. Адступаць не было куды, і шпіён прызнаўся, што фашысты загадалі яму даваць сігналы карнікам аб месцы знаходжання партызан... У гэты ж час былі абясшкоджаны яшчэ некалькі варожых лазутчыкаў.

Брыгадная разведка падрыхтавала аперацыю па разгрому фашысцкага апорнага пункта ў вёсцы Загора. Дапамаглі ёй у гэтым члены падпольнай антыфашысцкай групы, у якую ўваходзілі браты Мікалай, Міхаіл і Іван Брылі. Яны перадалі дакладны план размяшчэння варожых умацаванняў. Карыстаючыся ім, партызаны паспяхова ажыццявілі аперацыю. Добра былі таксама падрыхтаваны аперацыі па разгрому гарнізонаў у Міры, Ярэмічах, Любна і Дудках.

Як агню, баяліся фашысты разведчыкаў. Але яшчэ больш баяліся іх гітлераўскія прыхвасні—здраднікі і паліцаі. Яны ведалі, што савецкія людзі не даруюць ім здрады. Разведчыкі і сталі караючай рукою народа, ад якой нельга было схавацца нідзе. Памятаю такі выпадак. Кулак з вёскі Ператокі Андрэй Турко старанна дапамагаў акупантам у іх чорных справах. Пры яго актыўным удзеле былі расстраляны дзевяць чалавек з падпольнай камсамольска-маладзёжнай арганізацыі. Баючыся жыць у сваёй вёсцы, ён пераехаў у Стоўбцы, пад ахову акупантаў. Партызанскі суд вынес яму смяротны прыгавор.

Разведчыкі Андрэй Саятэвіч і Мікалай Жыгалаў з Першага Камсамольскага атрада ўстанавілі, што здраднік прыязджае на сваё вясковае поле ў тыя дні, калі фашысцкія салдаты праводзяць тут заняткі на стрэльбішчы.

Ноччу Саятэвіч і Жыгалаў на конях прыехалі ў лясок на ператоцкіх палях. Як толькі развіднела, там з'явіліся сяляне. Прыехаў са Стоўбцаў і Турко.

Саятэвіч апрануўся ў сялянскую вопратку, паклаў у кішэні гранаты, наган. Ні Турко, ні іншыя, хто працаваў на полі, не звярнулі ўвагі, што да іх ідзе нейкі чалавек. Калі да здрадніка засталося некалькі дзесяткаў крокаў, той пазнаў партызана, хлопца са сваёй вёскі, замітусіўся. Саятэвіч загадаў:

— Рукі на галаву і марш наперад!

Здраднік не выканаў загад і пайшоў на партызана. Разведчык паўтарыў свой загад, але той толькі шпарчэй пашыбаваў. Саятэвіч спусціў курок—асечка. Турко заўважыў гэта і кінуўся на партызана. У долю секунды Саятэвіч паспеў адцягнуць затвор і зноў націснуў на спуск. Прагучаў выстрал...

У час акупацыі на службе ў немцаў аказалася нямала сумленных людзей, сапраўдных патрыётаў Радзімы, якія вымушаны былі працаваць у гітлераўскіх установах, служыць у паліцыі пад прымусам. Мы вельмі ўважліва прыглядаліся да іх. Разведчыкам было загадана наладжваць з імі сувязь. Большасць з тых, каго мы бралі пад такі нагляд, пасля адпаведнай работы выконвалі заданні партызан, самаахдана змагаліся ў атрадах.

Даныя партызанскай разведкі аб дыслакацыі нямецкіх войск, іх колькасці, аб умацаваных пунктах на тэрыторыі Беларусі сталі надзвычай каштоўным матэрыялам пры распрацоўцы наступальнай аперацыі «Баграціён».

**Я. КРАМКО,**
**былы намеснік па разведцы камандзіра партызанскай брыгады «Камсамолец».**

# ...І праз паўвека мы хаваем паўшых

Вайна для гэтых васемнаццаці хлопцаў скончылася праз тыдзень пасля яе пачатку. Скончылася назаўсёды тут, ля Астрашыцкага Гарадка, на подступах да Мінска. Яны так і не даведаліся, ці ўдалося адстаяць Яначкіны Горы, — крутыя пагоркі ля скрыжавання шашэйных дарог, на схілах якіх, угрызаючыся ў сухі жвір і пясок, трымалася і памірала іх 100-я стралковая дывізія.

Тады, у 1941-м, па тых васемнаццаці не было калі і не было каму гаварыць жалобных слоў над магіламі. Ды і магіл не было — імі сталі траншэі, у якіх прынялі апошні бой гэтыя хлопцы. І апошняга салюта не было, калі не лічыць шалёнага агню наступаўшых і ўпартага супраціўлення тых, каму не суджана было перамагчы ў баі.

Пра што думалі ў свае апошнія імгненні васемнаццаць маладых салдат і сотні іншых, што палеглі тут, на Яначкіных Гарах, яшчэ не звыкшыся з думкай аб смерці, яшчэ жывучы ўспамінамі пра хату, пра сям'ю, з якімі развіталіся некалькі дзён назад? Наўрад ці быў у іх час разважаць над норавамі лёсу і думаць пра вечнае. Не да таго, калі над галавой раз-пораз з'яўляюцца бамбардзіроўшчыкі, «прасуючы» нашы пазіцыі, а з-за пагорка вось-вось выпаўзуць танкі. А ў руках іх, чырвонаармейцаў «непераможнай і легендарнай арміі», небыліц пра якую яны ўдосталь наслухаліся перад вайной — «трохлінейка» ўзору 1913 года ды бутэлька з гаручай сумессю. Адну такую бутэльку пошукаўцы знайшлі побач з астанкамі салдата на Яначкіных Гарах. Напэўна, не паспеў яе кінуць, уціснуты ў зямлю гусеніцамі танка ці скошаны асколкам снарада. У бутэльцы да гэтага часу захавалася вадкасць. Следапыты думалі —вада назбіралася за доўгі час. Аказалася — не. Паспрабавалі запаліць — успыхнула. І дзіўна, і трывожна, нават страшна было глядзець на гэты жывы агонь з 1941 года.

Ці думаў хто з салдат 100-й дывізіі, якія адступалі адсюль, кідаючы забітых, што настане дзень, калі іх баявыя таварышы будуць перапахаваны з усімі вайсковымі ўшанаваннямі. Што загрыміць медзь аркестра, што схіляцца над магіламі гвардзейскія сцягі з жалобнымі чорнымі стужкамі, што прагрыміць над паўшымі салют, а аднапалчане будуць гаварыць ля іх трунаў добрыя памінальныя словы.

Такі дзень настаў праз пяцьдзесят гадоў пасля таго бою. Настаў дзякуючы мінскай пошукавай групе «Белая Русь», у асноўным з былых салдат - «афганцаў», дзякуючы следапытам з Астрашыцка - Гарадоцкай СШ, дзякуючы мясцовым уладам, райваенкамату і многім-многім іншым, хто блізка да сэрца прыняў гэту справу і пазаўчора, у перадсвяточны дзень, прыйшоў да брацкай магілы.

Астанкі васемнаццаці салдат пахаваны там жа, дзе знайшлі апошні прытулак 133 іх баявыя таварышы, — ля скрыжавання дарог, дзе ўзвышаецца помнік-танк, недалёка ад месца бою. Але колькасць імёнаў на надмагільнай пліце не павялічылася: васемнаццаць салдат так і засталіся невядомымі. Цяпер ужо, відаць, назаўсёды.

**В. ЖДАНКО.**

Мінскі раён.

**НА ЗДЫМКАХ: кветкі на магіле герояў; у час перазахавання астанкаў невядомых савецкіх салдат у Астрашыцкім Гарадку.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

## Чытач просіць слова

### КАМПЛЕКТ «З НАГАМІ»

Добры дзень, дарагая рэдакцыя!

Выпісваю вашу газету, таму і звяртаюся да вас.

Я інвалід Вялікай Айчыннай вайны II групы і, як вядома, карыстаюся льготамі. Але ў нашым раёне, напэўна, для такіх, як я, ільгот не існуе. На што ні запісваўся — нічога не атрымаў. Можа, і не стаў бы вам пісаць, так і стаяў бы ў чэргах да канца сваіх дзён, толькі вось што атрымалася. Яшчэ ў 1989 годзе запісаўся я на пасцельную бялізну ў Пліскім сельпо. У канцы сакавіка прыходжу ў магазін, што ў в. Сакаўка, а прадавец гаворыць, што мне трэба заплаціць 60 рублёў за камплект бялізны. Праўда, дадае, што ў яе толькі накладная, а бялізны няма, дзе яна — не ведае. Раіць звярнуцца да дырэктара сельпо. Зразумела, плаціць я не стаў, пазваніў дырэктару Г. Лодысевай. Спачатку яна сказала, што разбярэцца. А потым паведаміла, што майму камплекту нехта «прыставіў ногі». Цікава, няўжо ёй невядома, хто гэта мог бы зрабіць? Вельмі крыўдна чуць такія адказы і цярпець такія вось адносіны.

Калі дзе-небудзь у горадзе падыходзіш да чаргі, каб штосьці набыць, людзі абураюцца: маўляў, вы, ветэраны і пенсіянеры, і так усё маеце, што вам патрэбна. А я, бачыце, не змог купіць нават камплект бялізны.

Запісваўся я і на звычайную канапу, на халадзільнік. З 1987 года стаю на чарзе на аўтамашыну, але, відаць, так і не дачакаюся. А можа і гэтым рэчам ужо нехта «прыставіў ногі»?

Я вельмі прашу навесці парадак у гандлі нашага раёна, а калі тут несумленныя людзі, то ці маюць яны права на свае пасады?

**К. ВАРАКСА.**

Смалявіцкі раён.

### АДКУЛЬ «ДЗІРКІ» Ў СЯМЕЙНЫМ БЮДЖЭЦЕ?

Яшчэ да рэформы цэн задумаўся я неяк: чаму кожны месяц ледзь канцы з канцамі зводзім? Здаецца, недзе 700 і нават іншы раз больш рублёў на чацвярых атрымліваецца. Далікатэсаў ніколі не бачым, дарагіх рэчаў не купляем. Жывём, адным словам, сціпла.

Узяў аловак і пачаў шукаць прарэхі сямейнага бюджэту. І вось што абрысавалася. З гэтых 700 рублёў — 13 працэнтаў, або больш як 90 рублёў, вылічваюць падаходнага падатку. Амаль на ўсе тавары — 5 працэнтаў «прэзідэнцкага» падатку. А гэта яшчэ недзе 30 рублёў. Гандаль пры продажы многіх і многіх тавараў адхоплівае свой куш у выглядзе гандлёвай скідкі. Купілі мы, напрыклад, «мяккі куток». Кошт яго да ўвядзення дагаворных цэн быў крыху больш як 600 рублёў. Фабрыка ўзняла цану за 950 рублёў. 5 працэнтаў «прэзідэнцкага» падатку, 20 працэнтаў — гандлёвая скідка. Такім чынам на пашпарце з'явілася новая цана — 1.226 рублёў. Адным словам, выйшла ў мяне, што толькі аднаго падатку — прамога або ўскоснага — дзяржава забрала ні многа ні мала 200—230 рублікаў, або 25—30 працэнтаў сямейнага бюджэту. Плюс да гэтага прафсаюзныя. Гэтыя разлікі вёў яшчэ ў «старых» дарэформенных цэнах. А цяпер тыя 25—30 працэнтаў трэба памножыць як мінімум на два. Вось і атрымліваецца, што дзяржава адной рукой дае зарплату, а другой тут жа львіную долю адбірае назад у выглядзе ўсемагчымых падаткаў. А што рабіць тым, у каго зарплата 130—150 рублёў у месяц?

**В. СВЕДЗІН.**

г. Мінск.

### ТЭЛЕВАЛАКІТА

Паважаная рэдакцыя, звяртаюся да вас з просьбай як у апошнюю ўжо інстанцыю і з надзеяй, што вы мне ўсё ж дапаможаце. Сутнасць справы вось у чым. Са студзеня дабіваюся ў адміністрацыі Мінскага раённага тэлевізійнага атэлье рамонту тэлевізара маркі «Гарызонт». І на працягу ўсіх гэтых трох месяцаў чуў у адказ: заяўкі на выязны рамонт не бяром з-за адсутнасці аўтатранспарту. Мне цяжка паверыць, што дырэктар атэлье на працягу трох месяцаў не змог выдзеліць транспарт майстру.

Пасля таго як я звярнуўся ў мінскае аб'яднанне «Гарант», 10 красавіка майстар з атэлье ўсё ж прыехаў. Я падкрэсліваю гэта слова — прыехаў, а не прыйшоў пешшу. Але ён прыехаў без запчастак да тэлевізара. Адвёрткай пакорпаўся ў маім «Гарызонце» і, спаслаўшыся, што ў яго няма запчастак, паехаў. 11 красавіка я зноў звяртаюся ў атэлье і зноў чую: заявак не бяром з-за адсутнасці транспарту.

Даставіць свой тэлевізар у атэлье я не маю магчымасці ды і ведаю, што тэлеатэлье абавязана прыязджаць па заяўках і рабіць рамонт дома. Я маю права патрабаваць ад іх выканання сваіх службовых абавязкаў.

Дарэчы, у нашай вёсцы не я адзін такі пакутнік. Таму прашу маю просьбу разглядаць як калектыўную. І ад імя жыхароў вёскі, якіх спасціг такі ж лёс, прашу вас дапамагчы вырашыць гэту праблему. Спадзяёмся, што яна ўсё ж вырашальная ў межах нашага раёна.

**М. ГАЛАВАЦКІ,**
**жыхар в. Багатырова Мінскага раёна.**

# «Партийный вестник»

**Выйшаў у свет першы нумар навукова-інфармацыйнага бюлетэня ЦК КПБ «Партийный вестник».**

У звароце рэдакцыйнага савета «Да нашых чытачоў» падкрэсліваецца, што ён разлічаны перш за ўсё на партыйных работнікаў і актывістаў, камуністаў, усіх, хто цікавіцца тэорыяй, палітыкай і гісторыяй Камуністычнай партыі, яе дзейнасцю ў розных сферах.

У першым нумары публікуецца артыкул-наказ члена Палітбюро ЦК КПСС, першага сакратара ЦК КПБ А. Малафеева «Быць памочнікам і дарадчыкам». Змешчаны пастанова сумеснага Пленума ЦК і КК КПБ аб Камісіі па падрыхтоўцы Праграмы Камуністычнай партыі Беларусі і яе персанальны састаў.

У раздзеле «У Цэнтральным Камітэце Кампартыі Беларусі» чытач знойдзе састаў Бюро і Сакратарыята ЦК КПБ, азнаёміцца з кароткімі біяграфіямі членаў Бюро і сакратароў ЦК, структурай апарату ЦК КПБ.

Бюлетэнь інфармуе аб рабоце аддзелаў ЦК КПБ, выніках правядзення ў Кампартыі Беларусі занальных нарад сакратароў пярвічных партыйных арганізацый.

Рубрыка «Грамадства. Палітыка. Партыя» прадстаўлена інфармацыяй «XXXI з'езд Кампартыі Беларусі: у люстэрку сацыялогіі», а таксама гутаркай кансультанта арганізацыйнага аддзела ЦК КПБ С. Маскалёвай і сакратара парткома мінскага навукова-вытворчага аб'яднання «Інтэграл» імя XXV з'езда КПСС, члена ЦК КПБ М. Пятрушына на злабадзённую тэму «Хто пакідае партыю».

Пошта ЦК КПБ прадстаўлена аналітычным матэрыялам работнікаў агульнага аддзела ЦК КПБ Л. Пшонь і С. Брышцелева аб характары і выніках разгляду пісьмаў, якія паступілі ў ЦК КПБ у 1990 годзе. Змешчаны зацверджаны Сакратарыятам ЦК КПБ графік прыёму грамадзян у прыёмнай ЦК Кампартыі Беларусі.

У рубрыцы «З архіваў Кампартыі Беларусі» ўпершыню ў рэспубліцы публікуюцца дзённікавыя запісы вядомага савецкага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча А. Мяснікова і перадрукоўваюцца ўспаміны аднаго са старэйшых удзельнікаў рэвалюцыйнага руху ў Расіі А. Мартынава, звязаныя з жыццём і дзейнасцю У. Леніна. Тут жа змешчаны навуковы каментарый Н. Сташкевіча аб гісторыі і праграмных устаноўках Беларускай сацыялістычнай грамады.

У бюлетэні апублікавана партыйная хроніка аб кадравых змяненнях, прадстаўлены навінкі грамадска-палітычнай літаратуры.

Да канца 1991 года выйдуць яшчэ 4 нумары бюлетэня. На іх атрыманне неабходна падаць заяўкі да 1 чэрвеня. Афармленне заказаў ажыццяўляецца пярвічнымі партарганізацыямі праз гаркомы, райкомы КПБ.

